**Падручнікі**

*Дадатак да «Настаўніцкай газеты»*

**8** выпуск

НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНЫ ЦЭНТР ВУЧЭБНАЙ КНІГІ І СРОДКАЎ НАВУЧАННЯ МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Нацыянальныя падручнікі, вучэбныя і вучэбна-метадычныя дапаможнікі па геаграфіі

## для агульнаадукацыйнай школы з беларускай і рускай мовамі навучання

Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання прапануе ўвазе настаўнікаў вучэбна-метадычныя камплекты па геаграфіі. Цэнтральнае месца ў іх займаюць падручнікі і вучэбныя дапаможнікі. Яны адпавядаюць праграме па геаграфіі для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы (1998 г.) і рэкамендаваны да выдання Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Падручнікі інтэгруюць вакол сябе іншыя вучэбныя кнігі (хрэстаматыі), вучэбна-метадычныя дапаможнікі, прысвечаныя праблемам выкладання асобных курсаў геаграфіі. У вучэбна-метадычныя камплекты ўваходзяць атласы і контурныя карты.

Атлас з'яўляецца для вучняў адначасова вучэбным і даведачным дапаможнікам, бо ён змяшчае не толькі абавязковую, вызначаную ў праграмах і падручніках наменклатуру, але і дапаўняльную, а таксама шэраг даведачных звестак.

Контурныя карты – неабходныя дапаможнікі для выпрацоўкі ў вучняў дакладных прасторавых уяўленняў, фарміравання картаграфічных уменняў і для выканання практычных работ.

Знаёмім таксама настаўнікаў з метадычнай літаратурай агульнага прызначэння, якая рэкамендавана да выдання Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання.

## 5 клас

**Вучэбны дапаможнік** па свайму зместу прапедыўтычны. Ён складаецца з трох раздзелаў: «Сусвет ад вялікага да малога», «Космас і Зямля», «Зямля», якія змяшчаюць першапачатковыя фізічныя, хімічныя, астранамічныя, геаграфічныя звесткі. Яго задача – падрыхтаваць школьнікаў да вывучэння асноўных адпаведных курсаў у старшых класах.

**У дапаможніку** вызначаны мэты вывучэння раздзелаў, прапанаваны агульныя парады па іх вывучэнні, прадстаўлены падрабязныя распрацоўкі ўрокаў з улікам таго, што інтэграваны прадмет «Сусвет» выкладаюць настаўнікі розных спецыяльнасцей.

Заданні **контурных карт** прадугледжваюць работу з падручнікам, картамі. Некаторыя з іх маюць займальны характар.




*Грузінскі В. У. і інш.*
***Сусвет: Вучэб. дапаможнік для 5-га кл. агульнаадукац. шк.*** */ В. У. Грузінскі, Т. А. Пяркоўскі, А. А. Халімановіч.— Мн.: Нар. асвета, 1996.— 320 с.: іл.*

*Грузинский В. В. и др.*
***Вселенная: Учеб. пособие для 5-го кл. общеобразоват. шк.*** */В. В. Грузинский, Т. А. Перковский, А. А. Халиманович.— Мн.: Нар. асвета, 1996.— 320 с.: ил.*

*Грузинский В. В. и др.*
***Вселенная в 5-м классе: Пособие для учителя*** */ В. В. Грузинский, Т. А. Перковский, А. А. Халиманович.— Мн.: Нар. асвета, 1996.— 207 с.: ил.*

***Контурные карты. Вселенная. Планета Земля. 5 класс.*** *— Мн.: Государственное предприятие "Минская печатная фабрика", 2000.— 24 с.*

## 8 клас

**Вучэбны дапаможнік** з'яўляецца лагічным працягам падручніка 7 класа. Прысвечаны мацерыкам Паўночнага паўшар'я – Паўночнай Амерыцы і Еўразіі. Спачатку даецца характарыстыка мацерыкам як прыродна-тэрытарыяльным комплексам, потым – асобным рэгіёнам і краінам. У вучэбным дапаможніку маюцца пазатэкставыя кампаненты: карты, фотаздымкі, дыяграмы, схемы, табліцы. Пытанні і заданні дапаможніка садзейнічаюць развіццю мыслення вучняў.

**Хрэстаматыя** прызначана для класнага і пазакласнага чытання па курсу «Геаграфія мацерыкоў і краін, 7–8 класы». У ёй вытрыманы праграмны падыход дадзенага курса да размяшчэння і зместу артыкулаў, якія ўслед за падручнікамі ўводзяць школьнікаў у цудоўны свет геаграфіі. Гэта сустрэчы са знакамітымі падарожнікамі і даследчыкамі; знаёмства з фізіка-геаграфічнымі аб'ектамі і з'явамі прыроды, займальнымі фактамі з жыцця расліннага і жывёльнага свету, быту і гаспадарчай дзейнасці чалавека ў асобных рэгіёнах мацерыкоў.

**Вучэбна-метадычны дапаможнік** знаёміць настаўнікаў з асабістым творчым падыходам аўтараў да арганізацыі заняткаў па вывучэнні тых або іншых тэм. Для кожнай тэмы вызначаюцца адукацыйна-выхаваўчыя задачы і, зыходзячы з іх, падаюцца канкрэтныя метадычныя парады па арганізацыі і зместу ўрокаў з выкарыстаннем розных форм і метадаў навучання, прыцягненнем дапаўняльнага матэрыялу, у тым ліку хрэстаматыйнага.

**Контурныя карты** змяшчаюць шэраг парактычных заданняў, якія адрасаваны кожнай праграмнай тэме курса.




***Геаграфія мацерыкоў і краін. Раздзел II. Паўночныя мацерыкі і краіны Паўночнай Амерыкі і Еўразіі:*** *Вучэбн. Дапаможнік для 8-га кл. сярэд. шк. / Н. С. Юрцэвіч Б. М. Крайко, Р. Г. Обух, П. І. Рогач.— Мн.: Нар. асвета, 1998.— 269 с.: іл.*

***География материков и стран. Раздел II. Северные материки и страны Северной Америки и Евразии:*** *Учебн. пособ. для 8-го кл. сред. шк. / Н. С. Юрцевич, Б. Н. Крайко, Г. Г. Обух, П. И. Рогач.— Мн.: Нар. асвета, 1998.— 270 с.: ил.*

*Юрцевич Н. С.*
***По материкам и странам:*** *Пособ. для учащихся 7–8-х кл. общеобразов. шк.— Мн.: Нар. асвета, 1998.— 335 с.: ил.*

*Крайко Б. Н. и др.*
***Уроки географии в 8 классе.*** *Учеб.-метод. пособие для учителей /Б. Н. Крайко, В. Б. Евзрезова, П. И. Рогач, Н. С. Юрцевич.— Мн.: Нар. асвета, 1999.— 174 с.: ил.*

***Контурные карты «География. Материки и страны», 8 класс.*** *— Мн.: Государственное предприятие «Минская печатная фабрика», 2000.— 39 с.*

## 9 клас

**Падручнік** складаецца з 10 раздзелаў, якія прысвечаны прыродзе, насельніцтву, гаспадарчай дзейнасці, прыродна-гаспадарчым раёнам, адміністрацыйным абласцям Беларусі. У падручніку разглядаюцца экалагічныя і сацыяльна-эканамічныя праблемы развіцця рэспублікі. Падручнік выразна сарыентаваны на развіццё вучняў, аб чым сведчыць сістэма яго метадычнага апарата: планы-схемы, якія адыгрываюць ролю графічнага аглаўлення тэм; пытанні і заданні, якія патрабуюць ад вучняў умення аналізаваць, рабіць высновы, супастаўляць; дадатковы тэкст пад рубрыкай «Гэта цікава ведаць»; шматгранны ілюстрацыйны матэрыял.

**У дапаможніку** асаблівая ўвага сканцэнтравана на адметных асаблівасцях прыроды, насельніцтва і гаспадаркі Беларусі, якія адрозніваюць яе ад іншых краін свету. Структура дапаможніка не зусім звычайная. Вучэбны матэрыял у ім падаецца ў форме пытанняў і адказаў на іх. Гэта дае магчымасць сканцэнтраваць увагу на галоўным, пашырае чытацкую аўдыторыю: ад школьнікаў, настаўнікаў і студэнтаў да тых, каго цікавіць беларускі край.

**Вучэбна-метадычны дапаможнік** складаецца з трох частак. У першай частцы выкладзены асноўныя палажэнні канцэпцыі школьнай геаграфічнай адукацыі, абгрунтаваны структура і змест падручніка па геаграфіі Беларусі, раскрыты яго метадычныя асаблівасці. Другая частка змяшчае агульныя метадычныя рэкамендацыі па вывучэнні асобных раздзелаў падручніка і дае распрацоўкі урокаў па найбольш складаных тэмах. У трэцяй частцы выкладзены варыянты выканання праграмных практычных работ.

**Атлас** спалучае набор фізічных і сацыяльна-эканамічных карт Беларусі. Асобна прадстаўлены карты адміністрацыйных абласцей.

Заданні па **контурных картах** прадугледжаны па ўсіх тэмах. Яны накіраваны на развіццё геаграфічнага мыслення вучняў, фарміраванне ўменняў карыстацца рознымі крыніцамі ведаў.




*Сідор С. І.*
***Геаграфія Беларусі.*** *Падруч. для 9-га кл. агульнаадукац. шк. з бел. і рус. мовамі навучання.- 3-е выд., выпр.— Мн.: Нар. Асвета, 2000.— 288 с.: іл.*

*Сідор С. І. і інш.*
***Геаграфія Беларусі ў пытаннях і адказах.*** *Дапам. для вучняў 9-га кл. агульнаадукац. шк. / С. І. Сідор, П. С. Лопух, Г. С. Смалякоў.— Мн.: Нар асвета, 1998.— 111с.: іл.*

*Сідор С. І. і інш.*
***Вывучэнне геаграфіі Беларусі ў 9-м класе.*** *Вучэб.-метад. дапам. для настаўнікаў / С. І. Сідор, В. Л. Белая, В. І. Мітраховіч, А. М. Сікорскі.— Мн.: Нар асвета, 1999.— 127 с.: іл.*

***Атлас Рэспублікі Беларусь, 9 клас.*** *— Мн.: Дзяржаўнае прадпрыемства «Мінская друкарская фабрыка», 1998.— 48 с.: іл., карт.*

***Контурныя карты «Геаграфія. Беларусь», 9 клас.*** *— Мн.: Дзяржаўнае прадпрыемства «Мінская друкарская фабрыка», 2000.— 28 с.*





## 6 клас

**Падручнік** змяшчае базавыя звесткі аб прыродзе зямной паверхні, яе асноўных геаграфічных заканамернасцях, насельніцтве Зямлі і яго гаспадарчай дзейнасці. Пытанні і заданні, пададзеныя пасля кожнай тэмы, патрабуюць паўтарэння галоўнага зместу, яго пераасэнсавання, накіраваны на абагульненне ведаў і фарміраванне прыёмаў вучэбнай работы, на самастойнае іх прымяненне вучнямі. Ілюстрацыі падручніка служаць пазатэкставай крыніцай ведаў.

**Хрэстаматыя** цесна звязана са зместам падручніка. Яе артыкулы, згодна праграме курса геаграфіі 6 кл., згрупаваны ў наступныя раздзелы: «Карта – другая мова геаграфіі», «Прыродныя ўмовы зямной паверхні», «Насельніцтва Зямлі і яго гаспадарчая дзейнасць».

Яскравыя тэксты ўводзяць школьнікаў у загадкавы свет геаграфіі.

Кніга дапаможа настаўніку ў падрыхтоўцы да ўрокаў, пазакласных заняткаў.

**Вучэбна-метадычны дапаможнік** складаецца з дзвюх частак. Першая частка прысвечана найбольш важным агульным пытанням навучання пачатковаму курсу геаграфіі. У другой частцы разгледжаны шляхі рашэння задач курса праз метадычныя рэкамендацыі па ўсіх яго раздзелах і тэмах, прапанаваны канкрэтныя распрацоўкі ўрокаў з прымяненнем структурна-лагічных схем, якія дапамогуць настаўніку актывізаваць творчую дзейнасць вучняў.

**Атлас** змяшчае неабходны картаграфічны матэрыял для вывучэння пачатковага курса геаграфіі. Ен спалучае карты фізіка-геаграфічнага і эканамічнага зместу.

**Контурныя карты** прапануюць па ўсіх праграмных тэмах разнастайныя практыкаванні і заданні па фарміраванні прасторавых уяўленняў вучняў, іх картаграфічных навыкаў і ўменняў.




*Галай І. П., Андрыеўская З. Я.*
***Пачатковы курс геаграфіі:*** *Падруч. для 6-га кл. сярэдн. шк.— Мн.: Нар. асвета, 1998.— 254 с.: іл.*

*Галай И. П., Андриевская З. Я.*
***Начальный курс географии:*** *Уч. для 6-го кл. сред. шк.— Мн.: Нар. асвета, 1996.— 254 с.: ил.*

*Якушко О. Ф., Андриевская З. Я.*
***За страницами учебника географии:*** *Пособие для уч-ся 6-го кл. общеобраз. шк.— Мн.: Нар. асвета, 1998.— 223 с.: ил.*

*Галай И.П. и др.*
***География в 6-м классе:*** *Учеб.-метод. пособие / И. П. Галай, Е. И. Галай, Ж. М. Якубович. — Мн.: Нар. асвета, 2000.— 215 с.: ил.*

***Пачатковы курс геаграфіі:*** *Атлас: Вуч. дапам. для 6 кл. агульнаадук. шк. з бел. мовай навучання. / Пад агульн. рэд. І. П. Галая. — Мінск: РУП "Белкартаграфія", 2001.— 24 с.: іл. карт.*

***Начальный курс географии:*** *Атлас: Учебное пособие для 6 кл. общеобразоват. шк. с рус. яз. обучения / Под общ. ред. И. П. Галая. — Мн.: РУП «Белкартография», 2001.— 24 с.: ил., карт.*

***Контурные карты. География. Начальный курс. 6 класс.*** *— Мн.: Государственное предприятие "Минская печатная фабрика", 2000.— 24 с.*

## 7 клас

**Падручнік** адкрываецца агульным геаграфічным аглядам Зямнога шара. Ен ўключае матэрыял аб даследаваннях мацерыкоў і акіянаў, сучаснай палітычнай карце свету, насельніцтве, прыродных рэсурсах і сусветнай гаспадарцы. У рэгіянальным аглядзе даецца комплексная геаграфічная характарыстыка мацерыкоў Паўднёвага паўшар'я, асобных краін. Тэкст падручніка суправаджаюць карты, схемы, дыяграмы, табліцы, малюнкі. Даведачна-метадычны апарат падручніка змяшчае пытанні і заданні як рэпрадукцыйнага, так і творчага характару.

**У хрэстаматыі** ў роўнай ступені прадстаўлены нарысы як фізіка-геаграфічнага, так і сацыяльна-эканамічнага характару, пададзены яскравыя вобразныя характарыстыкі асобных краін і народаў, геаграфічных аб'ектаў. Уключаны артыкулы аб змяненні навакольнага асяроддзя пад уплывам гаспадарчай дзейнасці ў розных кутках планеты.

Кніга будзе садзейнічаць пашырэнню геаграфічнага дыяпазону вучняў, удасканаленню якасці выкладання курса геаграфіі мацерыкоў і краін.

**У дапаможніку** значнае месца адведзена праблемам арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу з улікам сучасных патрабаванняў да яго. Адпаведна з гэтым разгледжаны шляхі засваення вучнямі геаграфічных паняццяў, галоўных фізіка-геаграфічных заканамернасцей. Дзеля развіцця ініцыятывы настаўніка прапанаваны варыянты ўрокаў.

**Атлас** поўнасцю адказвае сучасным патрабаванням школьнай геаграфіі курса 7-га класа. Карты атласа нясуць багатую інфармацыю аб прыродзе, насельніцтве і гаспадарцы мацерыкоў, асобных краін, размешчаных у Паўднёвым паўшар'і. Многія з іх сустракаюцца ўпершыню. Карты дапаўняюцца схемамі, малюнкамі, даведачным матэрыялам.

**Контурныя карты** ўключаюць 9 сусветных і 24 рэгіянальныя карты, прысвечаныя мацерыкам Паўднёвага паўшар'я. Кожная карта ўключае ад 3 да 6 практычных заданняў, накіраваных на фарміраванне картаграфічных уменняў і навыкаў вучняў, прадугледжаных праграмай курса.




*Зыль А. А., Рылюк Г. Я.*
***Геаграфія мацерыкоў і краін:*** *Падруч. для 7-га кл. сярэд. шк.— Мн.: ТАА «Аракул», 1999.— 310 с.: іл.*

*Зыль Е. А., Рылюк Г. Я.*
***География материков и стран:*** *Учеб. для 7-го кл. ср. шк.—Мн.: 000 «Оракул», 1999.— 312 с.: ил.*

*Юрцевич Н. С.*
***По материкам и странам:*** *Пособ. для учащихся 7–8-х кл. общеобразов. шк.— Мн.: Нар. асвета, 1998.— 335 с.: ил.*

*Зыль Е. А. и др.*
***География материков и стран в 7 классе:*** *Пособие для учителей географии. Мн.: 000 «Оракул», 1998.— 188 с.*

***География материков и стран:*** *Атлас, 7 класс.— Мн.: Унитарное предприятие «Минская печатная фабрика» Гознака, 2001.— 48 с.: ил., карт.*

***Контурные карты. География. Материки и страны. 7 класс.*** *— Мн.: Государственное предприятие «Минская печатная фабрика». 2000.— 39 с.*

## 10 клас

**Вучэбны дапаможнік** завяршае вывучэнне геаграфіі ў агульнаадукацыйнай школе. У яго структуры вылучаецца 5 блокаў, прысвечаных геаграфіі як навуцы і метадам яе даследавання, геаграфічнай абалонцы, палітычнай карце свету і насельніцтву, сусветнай гаспадарцы, глабальным і рэгіянальным праблемам чалавецтва. У канцы кожнага блока змешчаны кантрольныя пытанні і заданні, накіраваныя на абагульненне і сістэматызацыю ведаў вучняў.

**У вучэбна-метадычным дапаможніку** разгледжаны асаблівасці выкладання геаграфіі ў 10-м класе; змешчаны дапаўняльны тэарэтычны і статыстычны матэрыял, які тычыцца асноўных тэм курса «Агульная геаграфія»; прапанаваны альтэрнатыўныя варыянты вывучэння найбольш складаных па зместу раздзелаў; прыведзены новыя звесткі па геапалітыцы, насельніцтву, сусветнай гаспадарцы; пададзены канкрэтныя метадычныя парады па выкананні практычных работ. Дапаможнік раскрывае пытанні арганізацыі ўрокаў, прапануе шляхі выканання практычных праграмных работ.

Пытанні і заданні **контурных карт** разнастайныя па тыпалогіі, складанасці і форме, з уключэннем дыяграм, табліц статыстычнага зместу. Гэта дазваляе шырока іх выкарыстоўваць у вучэбным працэсе.




***Агульная геаграфія.*** *Вучэб. дапам. для 10-га кл. / Я. М. Мяшэчка, В. С. Аношка, М. С. Вайтовіч і інш.; Пад рэд. Я. М. Мяшэчкі.— Мн.: Нар. асвета, 1999.— 302 с.: іл.*

***Общая география.*** *Учеб. пособие для 10-го кл. / Е. Н. Мешечко, В. С. Аношко, М. С. Войтович и др.; Под ред. Е. Н. Мешечко.— Мн.: Нар. асвета, 1999.— 304 с.: іл.*

*Аношко В. С. и др.*
***География в 10-м классе:*** *Учеб.-метод, пособие / В. С. Аношко, М. С. Войтович, Е.Н. Мешечко.— Мн.: Нар. асвета, 2000.— 175 с.: ил.*

***Контурные карты «Общая география», 10 класс.*** *— Мн.: Республиканское унитарное предприятие «Белкартография», 2000.— 27 с.*

## Вучэбна-метадычная літаратура агульнага прызначэння

**У першай частцы дапаможніка «Истоки географических названий Беларуси»** выкладзены агульныя звесткі аб таланіміцы, раскрыты асноўныя заканамернасці ўзнікнення, развіцця і змянення геаграфічных назваў. Другая частка прысвечана тапанімам Беларусі, гісторыі іх фарміравання. Дапаможнік адрасуецца настаўнікам і вучням агульнаадукацыйных школ, студэнтам геаграфічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў.

**У дапаможніку «В мире географических названий Южных материков»** змешчаны кароткія звесткі аб тапаніміцы, прадстаўлены вобразныя нарысы паходжання назваў геаграфічных аб'ектаў, краін і народаў Паўднёвых мецерыкоў; прапанаваны метадычныя парады па вывучэнні геаграфічнай наменклатуры. Дапаможнік разлічаны на настаўнікаў і вучняў, студэнтаў геаграфічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў.

**Вучэбна-метадычны дапаможнік «Падагульняючыя праверачныя работы па геаграфіі»** змяшчае комплекс падагульняючых работ па ўсіх тэмах курсаў геаграфіі 6–10-х класаў, выніковых работ па кожным курсе. Даюцца метадычныя парады па іх правядзенні, прапануюцца інструкцыйныя карткі па рабоце з крыніцамі геаграфічных ведаў.

Прызначэнне кнігі – дапамагчы настаўніку сістэматызаваць і аб'ектыўна ацаніць веды і ўменні школьнікаў, садзейнічаць павышэнню ўзроўня навучальнага працэсу па геаграфіі.

**У дапаможніку «В мире географических названий материков Северного полушария»** разглядаюцца пытанні фарміравання геаграфічных назваў Паўночнага паўшар'я, прапануюцца рэкамендацыі па вывучэнні геаграфічнай наменклатуры; даюцца прыклады дэфіснага, злітнага і раздзельнага напісанняў геаграфічных назваў; гаворыцца аб значэнні геаграфічных назваў ў жыцці людзей.

**У дапаможніку «Экалагічнае навучанне на ўроках і ў пазакласнай рабоце»** асвятляецца асабісты вопыт аўтараў па экалагічным навучанні і выхаванні вучняў ва ўмовах сельскай школы. Прапануюцца эколага-тапаграфічныя заданні да шэрагу тэм курсаў геаграфіі, выкладаюцца шляхі і формы пазакласнай работы ў фарміраванні экалагічнай свядомасці вучняў, даюцца канкрэтныя распрацоўкі эколага-геаграфічных экспедыцый, канферэнцый, навуковых таварыстваў вучняў, вучэбных гульняў экалагічнага характару.

**У дапаможніку «Вучэбныя экскурсіі і палявыя практыкумы па геаграфіі»** прапанаваны распрацоўкі экскурсій, палявых практыкумаў, дадзены канкрэтныя парады настаўніку па арганізацыі і правядзенні эколага-геаграфічных назіранняў.

**У дапаможніку «Практычная тапаграфія ў школе»** раскрыты спосабы арыентавання на мясцовасці, прыведзены некаторыя прасцейшыя метады складання плана мясцовасці, а таксама апісана методыка работы з тапаграфічнай картай. Асноўныя задачы кнігі – аказаць дапамогу настаўніку ў набыцці вучнямі топографа-картаграфічных ведаў, валоданні уменнямі карыстацца геаграфічным матэрыялам.




*Гавриленко И. Н., Красновская В. А.*
***Итоговые проверочные работы по географии:*** *6–10 кл.: Учеб.-метод, пособие.— Мн.: Нар. асвета, 1999.— 200 с.: ил.*

*Рылюк Г. Я.*
***Истоки географических названий Беларуси*** *(с основами общей топонимики).— Мн.: «Веды», 1999.— 240 с.*

*Рылюк Г. Я. и др.*
***В мире географических названий материков Северного полушария:*** *Пособие для учителей / Г. Я. Рылюк, С. Н. Басик, В. В. Шафран.— Мн.: Нар. асвета, 2000.— 191 с.*

*Рылюк Г. Я., Басик С. Н.*
***В мире географических названий Южных материков*** *— Мн.: ЗАО «Веды», 1998.— 180 с.: ил.*

*Клёсаў С. К., Клёсава Р. М.*
***Экалагічнае навучанне і выхаванне на ўроках геаграфіі і ў пазакласнай рабоце:*** *З вопыту работы.— Мн.: Нар. асвета, 1998.— 112 с.*

*Гаўрыленка І. М., Красноўская В. А.*
***Падагульняючыя праверачныя работы па геаграфіі: 6–10-ы кл.:*** *Вучэб.-метад. дапаможнік.— Мн.: Нар. асвета, 1999.— 192 с.: іл.*

*Мяшэчка Я. М.*
***Вучэбныя экскурсіі і палявыя практыкумы па геаграфіі*** *— Мн.: ВДП «Нар асвета», 1997.— 111 с.: іл.*

*Саломка А. В., Саломка А. А.*
***Практычная тапаграфія ў школе.*** *— Мн.: Нар. асвета, 1996.— 128 с.*

## Наша чытальня

# "Да спакою — крок бясконцы..."

*Літаратурнае аб'яднанне "Крокі", якое працуе на факультэце беларускай філалогіі і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, дастаткова вядомае ў Беларусі. Творы маладых паэтаў неаднойчы змяшчаліся ў рэспубліканскіх часопісах і газетах ("Крыніца", "Бярозка", "Літаратура і мастацтва", "Чырвоная змена", "Знамя юности", "Наша ніва"), гучалі па Беларускім радыё і тэлебачанні. Хочацца, каб і чытачы "Настаўніцкай газеты" ведалі, пра што пішуць іх будучыя калегі — настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, а сёння студэнты факультэта беларускай філалогіі і культуры, які гэтымі днямі святкуе свой першы — дзесяцігадовы — юбілей.*

**Мікола ШАБОВІЧ,**
**кіраўнік літаб'яднання "Крокі".**

### Алена ШАРАПА

* * *

Здаецца,
Каб не было вуснаў табой дыхаць,
Каб не было рук абняць цябе моцна,
Каб не было ног да цябе бегчы,
Каб не было слыху чуць тваё жыццё,
Каб не было вачэй бачыць твае рукі,
То не трэба і сэрца цябе кахаць...

### Ігар КЛЕПІКАЎ

**Трыялет**

Адрыну застыласць прасторы,
Прыняўшы бясконцасць дарог.
Пераступіўшы парог,
Адрыну застыласць прасторы.
Няхай мне даруе мой Бог,
Што цеснымі сталіся горы.
Адрыну застыласць прасторы,
Прыняўшы бясконцасць дарог...

**Цярпенне**

Дарога ад А да Б
Часам можа прайсці
Праз увесь алфавіт,
Таму набярыся цярпення
Нават на лёгкай дарозе —
І некалі ціхае слова
Глухі пераможа граніт,
І бура, што рыкае зверам,
Не зрушыць і пыл на дарозе...
І вечнасць адыдзе ў нябыт.

### Таццяна СІВЕЦ

**Віфліемская зорка**

Я заўважыла гэту постаць
У засмяглым зімовым небе,
Не анёл і не д'ябал — проста
Хтось ішоў па ім, як па глебе.
На зямлі — усё тыя ж сваркі,
Чалавечых паглядаў жорсткасць.
Я таксама хачу — па хмарках!
Я таксама хачу — па зорках!
Чысцінёю, Сусвет, не грэбуй:
Грэх на смак непрыемна-горкі.
Тая дзіўная постаць у небе
Раптам стала Каляднай Зоркай.

### Ганна МІКЛАШЭВІЧ

* * *

Зашкальвае сэрца ад болю,
І крыўдай струменіць душа.
Жыццёвую смагу спатоліць
Бяруся з твайго гладыша...
Прыпалі сасмяглыя вусны
Да чыста-гаючай вады...
А прысмак — сунічна-спакусны,
А водар — як хмель малады...
Здаецца, ужо напілася,
А смага вяртаецца зноў...
Па целе вада разлілася
Пяшчотаю летніх дажджоў.
Гуллівасцю светла-крынічнай
Напоўніла сэрца да дна,
І крыўды душэўнай аблічча
Яна загаіла спаўна...
Як радасна сонца вясновіць!
У небе — святая імша.
Жыццёвую смагу спатоліць
Вазьміся з майго гладыша!..

* * *

Я занатоўваю смяшынкі мілых воч,
Рыфмую вуснаў тонкія абрысы...
Недаравальна згубленая ноч
Халодных зорак набывае рысы.
У сэрца — светлай вечнасці
блакнот —
Запісваю расчуленыя словы,
А космас думак нараджае лёд
З празрыстасцю нябесна-адмысловай.
Я занатоўваю сусветы таямніц,
Рыфмую непрыснёныя сюжэты...
І што за справа мне да тых блудніц,
Якімі цешацца бяздомныя паэты.

* * *

Мне паветраных замкаў не трэба —
Толькі вечар, пяшчотаю поўны.
Я гляджу ў твае вочы малебна,
Даганяючы сум твой няўлоўны.
Позірк твой — адзінота і морак...
Я кахаю!.. Ці ж я вінавата?..
У сутонні прытомленых зорак
Шматпакутнае сэрца распята.

### Юры ЧАРНЯКЕВІЧ

* * *

Рэакцыя роўная стымулу,
Калі стымулююцца нервы.
Але калі яны сімулююцца,
Па-простаму нівелююцца —
Тады жоўтай змяёю
Пачынае чарговы свой танец
Дзень.
І робяцца сімуляцыямі
І неба ў дыяментах,
І горад напаўшакаладны
З арэхамі ў целе сваім —
Людзьмі.
Соладка ў роце ад словаў,
Што пішуцца волатам,
Воландам беларускім
Асадкаю аднаразовай.
Кропкаю вершы канчаюцца,
І выпінаецца, вытыркаецца
Зноў жаўцізна,
Праз пальцы пяском
Праліваецца час.
Імгненні, секунды, здараецца,
Здаюцца мастацкімі творамі
У галерэі бясконцасці,
Сланечнікамі і сонцамі,
Белай, чырвонай ракой...
Ракою, стужкаю цьмянай,
Што, распрануўшыся перад аблокамі,
Нараджаецца чыстаю-чыстаю
Кропляй.
Слязою цнатлівай,
Празрыстай змяёю...

### Вера КАВАЛЕЎСКАЯ

* * *

Мы разлічыліся спаўна.
Чаго ж ты хочаш?
Кахання горкага віна
Мне напрарочыш.
Я гэту горыч давідна
Адна смакую.
Не варажы, чыя віна, —
Я не шкадую.
Мы разлічыліся спаўна —
Ідзі, адзіны.
Была салодкаю мана,
А лёс — палынны.
Чаго ж ты хочаш ад мяне,
Не разумею.
Палын гаркавіць у віне,
Ды я хмялею.
Не прапануй ізноў ману —
Не спакушуся.
Ідзі, пакінь мяне адну —
Я не баюся.

### Вольга ЧУМІЧОВА

* * *

Што, калі ты толькі люстэрка,
У якім адбіваецца мой спакой,
Мае жаданні, маё сэрца,
Маё каханне і боль.
Што, калі ты толькі адбітак
Маіх няспраўджаных сонечных сноў,
Забытых і болем забітых,
Маіх запаветных слоў?
Святло. Сонца. Ты.
Вось замова мая.
Яна спраўдзіцца,
Калі ты — гэта ты,
І не — калі ты —
Люстэрка.

### Марына ЦІМАШЭНКА

* * *

Не знікай. У горадзе дажджы.
Восень запаліла арабіны,
А на вуснах ціха стыне май,
І пагляд далёкі і адзіны.

Не знікай. У горадзе вятры.
Павуцінак распляліся ніці,
Пад нябёсы выраслі дамы,
З лабірынту іх шукаю выйсце.

Не знікай. У горадзе туман.
Белы вэлюм з кропелек зіхоткіх,
На зямлі бясколерны дыван
Першых льдзінак,
лёгкіх і дрыготкіх.

Не знікай. У горадзе туга.
Без цябе застылі ў небе зоркі,
Ледзянее без рукі рука,
Да спакою крок бясконцы, доўгі.

### Марына ВЫСЕЎКА

* * *

Я шукаю сустрэчы з табой,
Для мяне ты — як светлая згадка.
Дзе ты, мілы мужчына-загадка?
Я шукаю сустрэчы з табой.
За цябе хоць жыццё я аддам.
Для мяне ты ўладар мой ад Бога.
Без цябе мне на свеце — нікога...
За цябе і жыццё я аддам.
Я чакаю сустрэчы з табой.
Ці ты ёсць у падсонечным свеце?
Ці няма цябе ў цэлым Сусвеце?
Я чакаю сустрэчы з табой.

### Вадзім ШКЛЯРЫК

* * *

Хутчэй збірайцеся ў дарогу
Пад гоман ветру, птушак спеў,
Каб быць нашмат бліжэй да Бога
І гаварыць затым: "Паспеў!"
Паспеў паслухаць шолах жыта,
Пагаманіць з лясной ракой,
Прайсціся і ўявіць — нібыта
Ляціш ты, быццам бусел той.
Убачыць, як садзіцца сонца,
Памкнуцца месяц зноў спаткаць,
Адчуць, што гэта ўсё бясконца,
Жыцця вось толькі не стрымаць.

### Галіна КАСПЯРОВІЧ

* * *

Мне здаецца, шукаеш кагосьці:
Сумна вочы блукаюць
у пустцы нямой.
Не старайся дарма — мы ўсе госці
У ружовай краіне кахання вясной.

Безнадзейны дзівак —
ты чакаеш мяне...
Не ўскладняй сабе жыцця, бядача!
Час зманлівай пакуты (папомніш)
міне.
Не ўзгадаеш тады... І не ўбачыш!

Лёгкім ценем стаю
ў цябе за спіной
Ці няўлоўнаю знічкай мільгаю —
Толькі так вось магу
заставацца з табой,
Не інакш. Я даўно ўжо кахаю.

Не казала раней і цяпер не скажу.
Бо для сэрца Яе твае словы.
Не хачу пракладаць
паміж вамі мяжу...
І каханаю быць напалову.

— Ты ж сказаў прынесці пяцёркі.

— Я проста дапамагаю маме.

ШКОЛА

М. Гарэлава

**Вясёлы аловак Марыны ГАРЭЛАВАЙ**



## Лідзіруе гісторык

Нашага настаўніка гісторыі завуць Алег Генадзьевіч Багданаў. Ён на працягу многіх гадоў працуе ў сярэдняй школе № 1 Мінска. Колькі цікавых урокаў ён правёў, раскрываючы не проста змест параграфа, але і даючы магчымасць усім сэрцам адчуць і зразумець тое, што было ў мінулым: звычкі, побыт беларусаў, прыклады гераічнай барацьбы воінаў за вызваленне Беларусі ад фашыстаў, развіццё краіны...

Словам і справай дапамагае вучням А.Г.Багданаў у вырашэнні іх надзённых праблем. Алег Генадзьевіч — сапраўдны маладзёжны лідэр і барацьбіт за аднаўленне духоўнасці і культуры ў школе.

**Вольга КВЯТКО,**
**выпускніца сярэдняй школы № 1 Мінска.**

Тэатр

# Крокі ў будучыню

***Нядаўна творчая лабараторыя "Dancing Actors" паказала на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі монаспектакль "Крокі", пастаўлены па матывах лірычных твораў Уладзіміра Маякоўскага. Гэты эксперыментальны спектакль — вынік сумеснай работы акцёраў Тэатра беларускай драматургіі Міхаіла Камінскага і Алены Плютавай. Ідэя пастаноўкі з'явілася ў двух маладых акцёраў тэатра ў выніку працяглых творчых пошукаў у галіне рэжысуры, драматургіі і педагогікі.***

Міхаіл Камінскі не навічок у тэатры. Ён ужо сёмы год працуе ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі, куды прыйшоў у 1994 годзе адразу пасля заканчэння акцёрскага аддзялення Беларускай акадэміі мастацтваў.

Міхаіл належыць да катэгорыі артыстаў, для якіх не існуе амплуа, пра якіх гавораць — "артыст з талентам ад Бога". Самую невялічкую і, на першы погляд, нязначную ролю М.Камінскі ўмее падаць выразна і неардынарна. У яго асобе выдатна спалучаюцца рысы драматычнага артыста, харэографа, музыкі і мастака (дарэчы, Міхаіл яшчэ і вельмі таленавіты кераміст). Сцэнічная творчасць М.Камінскага заўжды выклікае ў гледача давер сваёй псіхалагічнай дакладнасцю, адточанасцю пластыкі і багаццем эмацыянальных фарбаў. На аснове ўсіх гэтых даных ён стварае ролю Першага забойцы ў спектаклі "Рычард" Уільяма Шэкспіра, ролі Райскага птаха, Функцыянера, Істоты і Афіцыянта ў фантасмагорыі С.Кавалёва "Стомлены д'ябал". Нельга не прыгадаць і яго выдатную акцёрскую работу ў трагіфарсе Б.Брэхта "Узлёт Артура Уі, які можна было спыніць...", дзе М.Камінскі выканаў ролю гангстэра Эрнэста Ромы. Але найбольш поўна праявіліся здольнасці артыста падчас работы над вобразам Трэцяга ў спектаклі "Апошняя пастараль" паводле аднайменнай аповесці А.Адамовіча, за якую ён быў адзначаны Дыпломам фестывалю "Маладзечанская сакавіца-99" за лепшае ўвасабленне мужчынскай ролі. Спектакль "Апошняя пастараль" з удзелам Міхаіла таксама стаў уладальнікам галоўных прызоў на фестывалях нацыянальнай драматургіі ў Бабруйску (1998 г.) і "Славянскія тэатральныя сустрэчы" ў Бранску (1999 г.).

Аднак вернемся да спектакля "Крокі" і падрабязна раскажам пра творчую лабараторыю "DAct".

У жніўні 1999 г. у рамках летняй арт-акадэміі "Carpe diem" ("Злаві імгненне"), арганізаванай Еўрапейскай асацыяцыяй студэнтаў, Міхаілам Камінскім і Аленай Плютавай быў праведзены майстар-клас для студэнтаў факультэтаў мастацтваў ВНУ Беларусі, Нідэрландаў, Іспаніі, Польшчы, Славеніі, Турцыі і Расіі. Атрыманы вопыт эксперыментальнай работы натхніў на стварэнне монаспектакля "Крокі", харэаграфічныя мініяцюры з якога адзначаны дыпломам XIII Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі, што адбыўся ў лістападзе мінулага года ў Віцебску.

Пасля паспяховага выступлення ў Віцебску ў М.Камінскага і А.Плютавай з'явілася ідэя стварэння творчай лабараторыі, якая праз некаторы час афармілася ў праект лабараторыі акцёрскай пластыкі "Dancing actors" ("Танцуючыя акцёры") — "DAct". Начальнік аддзела тэатраў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь В.В.Дапкюнас назваў гэты праект адным з лепшых і самых цікавых за апошнія гады.

Дзейнасць творчай лабараторыі "DAct" накіравана на аб'яднанне маладых акцёраў, рэжысёраў, мастакоў, музыкаў, якія жадаюць рэалізаваць свой творчы патэнцыял у роднай краіне ў сумесных праектах, тэатральных пастаноўках і іншых мастацкіх акцыях. Абавязковай умовай плённай работы лічыцца глыбокае ўсведамленне ўдзельнікамі праектаў таго, што беларуская сталіца павінна заняць годнае месца сярод культурных цэнтраў Еўропы.

Не сакрэт, што спектаклі эксперыментальных напрамкаў — выключна рэдкая з'ява для тэатральнай Беларусі. Разам з тым, сярод самастойных работ акцёраў мінскіх тэатраў, а таксама студэнтаў тэатральных аддзяленняў ВНУ ёсць работы (курсавыя і экзаменацыйныя эцюды), якія цалкам маглі б прадстаўляць культуру нашай краіны на міжнародных конкурсах і фестывалях. Аднак ні выканаўцы, ні іх педагогі пра гэта проста не здагадваюцца з прычыны недастатковага аб'ёму інфармацыі як пра тэндэнцыі развіцця сучаснага мастацтва, так і пра вялікую колькасць замежных фестываляў эксперыментальнага мастацтва. У фондах замежных культурных прадстаўніцтваў у Беларусі не заўсёды можна знайсці неабходныя відэа- і іншыя матэрыялы, а азнакамляльныя паездкі за мяжу ў большасці выпадкаў немагчымыя з прычыны іх высокага кошту. І калі нешта вядома пра конкурсы, што праводзяцца ў блізкім замежжы, то далёкае замежжа — terra incognita для большай часткі беларускай тэатральнай моладзі. Маладыя беларускія творцы іншы раз маюць вельмі абмежаванае ўяўленне пра тэндэнцыі і змены, што адбываюцца ў сусветнай культуры. І замест таго каб станавіцца прафесіяналамі міжнароднага ўзроўню, яны нярэдка апускаюцца да ўзроўню самадзейнасці.

Маладым акцёрам, якія спрабуюць пераадолець "руціну на оперных падмостках" і працуюць у розных тэатрах Мінска, ажыццявіць самастойную пастаноўку перашкаджаюць праблемы арганізацыйнага характару, звязаныя з арэндай памяшканняў для рэпетыцый, запісам і мантажом фанаграмы, пашывам касцюмаў і г.д. Усё гэта не вядзе да жаданага выніку. На думку стваральнікаў "DAct", плённая работа лабараторыі ўяўляецца магчымай толькі ў рамках незалежнай у фінансавым плане тэатральнай студыі, калі будзе створаны творчы калектыў, здольны самастойна рэалізоўваць канкурэнтаздольныя сцэнічныя праекты.

Але гэтым задачы, якія ставіць перад сабой "DAct", не абмяжоўваюцца. Важны аспект у дзейнасці лабараторыі — гэта далейшае вывучэнне прынцыпаў кантактнай імправізацыі, што ляжыць у аснове любога віду мастацтва, а таксама пастаноўка спектакляў, пабудаваных на сінтэзе харэаграфіі і драмы. На сённяшні дзень у лабараторыі распрацавана вучэбная праграма па асновах кантактнай імправізацыі трох узроўняў складанасці: комплекс інтэрактыўных гульняў для малодшых школьнікаў, трэнінг па майстэрству акцёра для студэнтаў і майстар-клас для прафесіяналаў.

Удзельнікі лабараторыі будуць рады пазнаёміцца з усімі, хто зацікаўлены ў рэалізацыі сумесных праектаў, а таксама з тымі, хто можа аказаць "DAct" маральную і матэрыяльную падтрымку. Пакуль, на жаль, лабараторыя не мае кантактнага тэлефона, але звязацца з "DAct" і атрымаць падрабязную інфармацыю аб дзейнасці лабараторыі можна праз электронную пошту па адрасе: kaminski2@aport.ru.

І напрыканцы — словы Міхаіла Камінскага — бясспрэчнага лідэра "Dancing Actors": "Няўжо творчая моладзь Беларусі заслугоўвае толькі ролі гледача ці пераймальніка? Надышоў час і нам стаць паўнапраўнымі ўдзельнікамі падзей, што адбываюцца ў сусветным мастацтве!".

**Рон САФРОНАЎ.**

За мяжой

# Ад тэлевізара да бальнічнага ложка

Брытанцы праяўляюць сур'ёзную занепакоенасць паказчыкам залішняй вагі ў дзяцей, якая расце з году ў год. Паводле апошняга навуковага даследавання, якое правёў універсітэт Лідса, амаль кожнае чацвёртае дзіця — 22 працэнты — ва ўзросце ад 7 да 11 гадоў мае лішнюю вагу, а прыкладна 12 працэнтаў — пакутуюць на атлусценне. Між тым, яшчэ 10 гадоў таму — у 1990 годзе — толькі 15 працэнтаў дзяцей мелі залішнюю вагу і 5 працэнтаў — атлусценне.

Вучоныя ўжо забілі трывогу з нагоды змрочнай перспектывы страціць у будучыні адну з галоўных рысаў англічан — традыцыйную падцягнутасць і хударлявасць. Ужо сёння сярэдні брытанец "таўсцейшы" за сярэдняга еўрапейца, а да 2010 года Злучанаму Каралеўству і зусім пагражае дагнаць ЗША, дзе на атлусценне пакутуе кожны чацвёрты.

Аднак яшчэ больш трывожаць медыцынскія наступствы павелічэння лішняй вагі. Як вядома, яно прыводзіць да развіцця сардэчных захворванняў, дыябету і яшчэ многіх хвароб. Па афіцыйных звестках, атлусценне абыходзіцца Вялікабрытаніі штогадова ў 2,5 млрд. фунтаў і становіцца прычынай заўчаснай смерці 30 тысяч брытанцаў.

Прычынай такой тэндэнцыі, на думку вучоных, сталі... даброты сучаснай цывілізацыі. Паводле слоў аднаго з даследчыкаў, Пінкі Пагота, "дзеці ўсё больш часу праводзяць перад тэлевізарам, гуляюць у камп'ютэр ці размаўляюць па мабільным тэлефоне. Яны нават не ходзяць у госці да прыяцеляў, а абменьваюцца з імі тэкставымі паведамленнямі. А ўлічваючы, што бацькі вельмі неахвотна адпускаюць дзяцей у такім узросце на вуліцу, іх лад жыцця і зусім становіцца нерухомым".

Па яго словах, гэта пацвярджаецца тым, што рэзкае павелічэнне вагі назіраецца пасля 9 гадоў — узросту, калі дзеці пачынаюць цікавіцца камп'ютэрам. Акрамя таго, да гэтага далучаецца і іншая рыса глабалізацыі — танная і няякасная ежа ў закусачных.

Паправіць становішча, на думку даследчыкаў, можна толькі прапагандай спартыўных заняткаў сярод дзяцей, улічваючы станоўчы вопыт такой агітацыі сярод дарослых, якія не забываюць сачыць за сваёй фігурай.

**Падрыхтаваў**
**Ігар КАНДРАЛЬ.**

**Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук**

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Рэгістрацыйны нумар 370.**

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-40-63; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-41-55; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Святлана КІРСАНАВА.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №3394
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 6.6.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.